ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 52 (2402) 29 снежня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.

## З НОВЫМ ГОДАМ!



Сяргей ЧЫГРЫН

### З НОВЫМ ГОДАМ, ЗЕМЛЯКІ!

Не спыніць цяпер, напэўна,
Нам жыццёвы калаўрот.
Якім выдасца год новы?
Ці багатым будзе год?

Хлеб ці будзе і да хлеба?
Ткацца будуць ручнікі?..
Зычу чыстага вам неба,
Беларусы-землякі!

Без трывог і хвалявання
Няхай будзе гэты год,
Больш усмешак і кахання,
Менш загадак і турбот.

Хай пад зоркаю "Пагоні"
Родны край бяда міне,
Каб нікога і ніколі
Больш не білі па спіне...

Беларусь каб не таптАлі.
Не дзялілі напалам.
І каб больш не вызвалялі:
Вызваленняў досыць нам...

Беларусы -- мой народзе,
Мой спрадвечны, дарагі,
Скінь жа стому ў новым годзе
Ад пакут і ад тугі!

## ГОД САБАКІ — ГОДУ СВІННІ:

### НЕ ВІШЧЫ НА ВЕЦЕР, НЕ СЛУХАЙ КАЗАК ПРА БЕЛАГА БЫЧКА...

... А гады ляцяць... Гэтая сентэнцыя старая, як свет, але ж і маладая, як свет. Часцей за ўсё пра хуткаплыннасць часу мы прыгадваем у двух выпадках: калі глядзім на падрослых дзяцей і ў навагодняе свята. Побач са святочнай ёлкай, з бакалам шампанскага ў руках людзі пачынаюць успамінаць пра "добрае", што здарылася ў мінулым годзе: тата дабудаваў першы пакой на лецішчы; мама ўрэшце купіла сабе, няхай і трусінае, але ж футра; бабуля паляжала ў бальніцы, і цяпер яе ўжо так не турбуе "ціск"; сын атрымаў доўгачаканую гульневую камп'ютэрную прыстаўку, а дачка з'ездзіла ў летні лагер на Нарачы і пазнаёмілася там з выдатным хлопцам... Што ж, усё гэта прыемна і міла. Разам з тым у нашай рэчаіснасці існуе яшчэ адзін бок, не такі прыемны і мілы, але тычыцца ўсіх, ад якога залежыць і паспяховая дабудова лецішча, і магчымасць набыць новыя боты да новага футра, і наяўнасць лекаў для хворых, і ўвогуле, будучыня нашых дзяцей. Гэта палітыка і эканоміка. Ведаю, многія кажуць: я палітыкай не цікаўлюся. Згодна, палітыкай можна не цікавіцца, але не залежаць ад яе немагчыма. Таму зададзімся пытаннем: а калі б сабраліся каля навагодняй ёлкі нашы народныя дэпутаты, міністры, старшыні, партыйныя функцыянеры і, канешне, Прэзідэнт са сваёй "вертыкаллю", пра што "добрае" з мінулага палітычнага года маглі б прыгадаць яны? На жаль, адказу пакуль усё яшчэ няма. Нельга ж усур'ёз успрымаць заявы накшталт той, што зрабіў на адной са снежаньскіх прэс-канферэнцый кіраўнік Кабінета Міністраў М.Чыгір: маўляў, праграма выхаду з крызісу выконваецца няблага, застануцца нерэалізаванымі толькі некаторыя моманты -- спыненне росту інфляцыі, спаду вытворчасці... Вось такія поспехі.

Безумоўна, адметнай з'явай зыходзячага года сталі выбары прэзідэнта Беларусі. Спадар Аляксандр Лукашэнка, які перамог на іх, сабраў вельмі высокі працэнт галасоў выбаршчыкаў: ён меў імідж змагара, шмат чаго абяцаў стомленым цяжкім жыццём суграмадзянам, і людзі з гатоўнасцю паверылі яму. З моманту інаўгурацыі мінула амаль паўгода: канстатаваць можна толькі адно: лягчэй не стала. Мяркую, у прэзідэнцкім асяроддзі гэтаму знаходзіцца шмат тлумачэнняў, прычым зусім "аб'ектыўных": тут вінаваты і "дрэнныя" дэпутаты, і непаслухмяныя незалежныя прафсаюзы, і Гарбачоў з Шушкевічам і Белавежскай пушчай, і "кебічысты" (ад слова Кебіч), і турэцкія шпіёны, і, натуральна, свае мясцовыя "нацыяналісты"... Пра апошніх, між іншым, размова асобная. У краіне пачалася сапраўдная атака на дзяржаўную беларускую мову, на саму ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАД СПАГАДЛІВАЙ АПЕКАЙ ТЭРПСІХОРЫ

IFMC

**(НАТАТКІ З НАГОДЫ VIII МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ СУЧАСНАЙ ХАРЭАГРАФІІ Ў ВІЦЕБСКУ)**

Восеньская слата, пранізлівы вецер ды няпэўныя ў сваёй сіле прымаразкі не надта адпавядалі таму ўрачыстаўзнёсламу настрою, што на працягу трох вечароў панаваў у перапоўненай зале Віцебскага Палаца культуры прафсаюзаў, дзе праходзілі канцэрты VIII Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі.

Мастацтва танца мадэрн -- з'ява для постсавецкага гледача амаль невядомая, а таму асабліва цікавая і прывабная. Вольны танец на абшарах колішняга СССР быў ліквідаваны яшчэ ў 1920-я гады, калі спецыяльнай пастановай уладаў у дзяржаве былі забаронены ўсе эксперыментальныя харэаграфічныя студыі. У галіне пластычнага мастацтва быў дадзены дазвол на развіццё аднаго толькі класічнага танца, дзякуючы чаму СССР надоўга ператварыўся ў вялізную "балетную імперыю" Марыуса Пеціпа.

Віцебскія фестывальныя сустрэчы -- гэта перш за ўсё спроба высветліць, што адбываецца зараз у галіне сучаснай харэаграфіі ў постсавецкіх краінах. У горад над Дзвіной штогод з'язджаюцца калектывы з розных гарадоў Беларусі, Расіі, Літвы, Эстоніі, Украіны, Азербайджана. У апошнія гады фестывалем пачалі цікавіцца харэографы, танцоўшчыкі і балетныя крытыкі з Францыі, Германіі, Швейцарыі, Кітая ды іншых краін свету.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З НАГОДЫ

## ІНГРЭСАВАЯ ІМША КАРДЫНАЛА

Як мы паведамлялі ўжо, 80-гадовы Казімір Свёнтак -- Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі рашэннем Папы рымскага Яна Паўла II прызначаны кардыналам Беларускага рымска-каталіцкага касцёла. З гэтай нагоды 20 снежня а 12 гадзіне ў Мінскім кафедральным касцёле Святой Дзевы Марыі адбылася інгрэсавая імша кардынала Свёнтака. Адпраўлялася набажэнства на беларускай і польскай мовах.

На ўрачыстасці прысутнічалі каталіцкія святары нашай краіны, пасол Ватыкана ў Беларусі папскі нунцый Агасціна Маркета, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, прадстаўнікі іншых канфесій, дыпламатычны корпус, прадстаўнікі гарадскіх улада ў сталіцы.

Казімір Свёнтак -- першы кардынал на Беларусі за ўсю гісторыю існавання каталіцкага касцёла ў нашай дзяржаве.

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## ЛЁД КРАНУЎСЯ

Усяго 12,1 працэнта ад іх агульнай колькасці выкарыстана іменных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць" на куплю акцый прыватызаваных прадпрыемстваў. Такую інфармацыю на 15 снежня атрымаў карэспандэнт Белінфарма ад начальніка ўпраўлення арганізацыі чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці рэспублікі Зінаіды Шаўчэнка. Магчыма, у бліжэйшы час гэта лічба хутка павялічыцца: расце колькасць акцыянерных таварыстваў, новы спіс якіх склалі 68 прадпрыемстваў рэспублікі.

Дарэчы, у апошні час жыхары Беларусі пачалі часцей звяртацца ў спецыяльныя камісіі з заявамі аб наліччэнні ІПЧ. За апошнія два тыдні гэта лічба склала 68 тысяч, а за такі ж перыяд лістапада -- усяго 53 тысячы.

НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА



"Легенда аб Калядах". Маляўнічыя прадстаўленні з такой назвай прайшлі ў Мінску напярэдадні свята ў Рэспубліканскім Палацы піянераў і школьнікаў. У яркім шоу было задзейнічана каля двухсот удзельнікаў з розных калектываў палаца. Узорны тэатр лялек паказаў сваю новую работу "Нараджэнне Хрыста". Кіраўнік гэтага калектыву Леанід Андрэйчыкаў і госця з Амерыкі рэжысёр Нью-Йоркскага тэатра "Лэмс", што на Брадвеі, Каралін Росі-Конленд у кароткі тэрмін паставілі спектакль. Лялькі для яго таксама "прыехалі" з Брадвея.

На дзесяці святочных прадстаўленнях пабывалі больш дзвюх тысяч школьнікаў. Гэта дзеці з шматдзетных сем'яў, дзеці-інваліды. Лялечны тэатр даў прадстаўленні ў дзіцячым гематалагічным цэнтры і ў чацвёртай дзіцячай клінічнай бальніцы.

Арганізаваць гэтыя калядныя спектаклі Рэспубліканскаму Палацу піянераў і школьнікаў дапамаглі амерыканская гуманітарная арганізацыя "Сіціхоўп Інтэрнешнл", міжнародная дабрачынная арганізацыя "Надзея-Экспрэс" і жаночая валанцёрская ініцыятыва "Крок насустрач!".

НА ЗДЫМКУ: КАРАЛІН РОСІ-КОНЛЕНД на рэпетыцыі з акцёрамі лялечнага тэатра.

МІСІЯ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА



У Мінску працуе сумесная місія Цэнтра ААН па правах чалавека і ПРААН, што ўзначальваецца доктарам Рэйнам Мулерсанам. Яе задача -- фарміраванне праграмы па правах чалавека для Беларусі. Члены місіі на чале з прадстаўніком ААН у Рэспубліцы Беларусь Мэцью Кахнэ пабывалі ў Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь, дзе год назад на грамадскіх пачатках была створана кафедра правоў чалавека. Мэта гэтай сустрэчы -- дапамога ў правядзенні самастойнай палітыкі, тэхнічная кансультацыі, што тычацца ўтварэння кафедры, а таксама выданне падручніка па правах чалавека на рускай і беларускай мовах для выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў.

НА ЗДЫМКУ: у час наведання Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь.

ДЭМАГРАФІЯ

## БРЭСТЧЫНА Ў ЛІЧБАХ

Кожны пяты жыхар Брэсцкай вобласці знаходзіцца ў пенсіённым узросце, а праз 20 гадоў доля гэтай катэгорыі насельніцтва можа ўзрасці да 25 працэнтаў.

З 1939 па 1993 год колькасць жыхароў вобласці павялічылася на 310 тысяч і склала на 1 студзеня 1994 года 1 мільён 519,7 тысячы чалавек. За гэты ж перыяд колькасць гараджан павялічылася больш чым у 5 разоў, а жыхароў сельскай мясцовасці скарацілася амаль у 2 разы. Узровень нараджальнасці знізіўся ў 2,5 раза. Такую дэмаграфічную сітуацыю сацыёлагі тлумачаць нізкай нараджальнасцю і ростам смяротнасці.

З БЕЛАРУСІ Ў АМЕРЫКУ

## ВОДНЫ ШЛЯХ

Дзелавое супрацоўніцтва з Гомельскім параходствам наладзіла вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій". Па яго заказу і пры непасрэдным удзеле на правым беразе Прыпяці пабудаваны перагрузачны комплекс, адкуль прадукцыя салігорскіх шахцёраў будзе дастаўляцца ў чарнаморскія порты і перапраўляцца ў Заходнюю Еўропу і Паўднёвую Амерыку.

Аб'яднанне не пашкадавала сродкаў і пераабсталявала сорак барж, каб захаваць тавары вышэй і якасць угнаеннняў, паўтара мільёна тон якіх "Беларуськалій" плануе перапраўляць замежным спажыўцам воднымі шляхамі у 1995 годзе.

РАДОВІШЧЫ

## БЕЛАРУСКІЯ МІНЕРАЛЬНЫЯ ВОДЫ

Рэпутацыю беларускіх Мінеральных Вод набывае Брэстчына. Яшчэ адна свідравіна глыбінёй 373 метры, адкрытая геолагамі, пачала працаваць на прамысловы выпуск вады "Заказельская". Вытворчасць гэта належыць аднайменнаму саўгасу ў Драгічынскім раёне. Мінеральная вада па ўтрыманню мікраэлементаў з'яўляецца аналагам вядомых каўказскіх вод. А незадоўга да гэтага пачался вытворчасць мінеральнай вады "Дубойская" ў Столінскім раёне. За апошнія тры гады падземныя крыніцы мінеральных вод адкрыты і пачалі дзейнічаць таксама ў Іванаўскім, Івацэвіцкім і Ганцавіцкім раёнах.

УПЕРШЫНЮ І ЗАДАРАМ

## МЯНЯЕМ ПОЛ

Удалыя пластычныя аднаўленчыя аперацыі малочных залоз, а таксама шэсць аперацый па хірургічнай карэкцыі полу з выкарыстаннем метадаў пластычнай мікрахірургіі ўпершыню праведзены вопытнымі спецыялістамі-мікрахірургамі Мінскай абласной клінічнай бальніцы.

У апошніх трох выпадках пацыенткі-транссексуалы не адмовіліся і ад фалаца, што ў далейшым дазволіць ім у поўнай меры адносіць сябе да моцнага полу. Дарэчы, такая аперацыя за мяжой каштуе каля 1 000 долараў. У Мінску яна праводзіцца пакуль што бясплатна.

З ДАПАМОГАЙ КАПІТАЛУ

## ТВОРЫ В.БЫКАВА Ў ЛІТВЕ

Многім спартыўным, навуковым і культурным мерапрыемствам, што праводзяцца за рубяжом, аказвае фінансавую падтрымку "Белзнешэканомбанк" Беларусі. Праўленне банка прыняло рашэнне падтрымаць выпуск твораў Васіля Быкава на літоўскай мове. Дзякуючы гэтай дапамозе, а таксама садзейнічанню пасольства Беларусі ў Літве, у 1995 годзе Выдавецкі цэнтр Літвы выпусціць на літоўскай мове аповесці В.Быкава "Альпійская балада" і "Воўчая зграя". Прымеркавана выданне да святкавання 50-годдзя Перамогі над фашызмам.

СКОТЛАНД-ЯРД

## СЛЕД ПРЫВЁЎ У МІНСК

У Вялікабрытаніі па падазрэнню ў махлярстве затрымана група асоб з рэспублік былога Саюза. У сувязі з гэтым нядаўна ў Мінску пабывалі супрацоўнікі Скотланд-Ярда. У некаторых з затрыманых выяўлены каштоўныя паперы Рэспублікі Беларусь на даволі значную суму ў замежнай валюце.

Па вестках БелаПАН, Міністэрствам унутраных спраў рэспублікі праводзіцца папярэдняе расследаванне па атрыманых фактах. У прыватнасці, высвятляецца, якім чынам паперы трапілі да затрыманых асоб і хто з вышэйшых службовых асоб з былога складу ўрада мае дачыненне да гэтай справы.

ЭКЗОТЫКА

## ГРОДЗЕНСКІЯ ЧАРАПАХІ

У Гродзенскім заапарку паспяхова праводзіцца эксперымент па развядзенню чарапах. У жніўні гэтага года дарослыя асобіны балотных чарапах, на якія яшчэ гадоў трыццаць--сорак назад былі багатыя лясы Беларусі (цяпер гэтыя паўзуны занесены ў Чырвоную кнігу), адклалі ў тэрарыуме заапарка трыццаць тры яйкі. З іх у спецыяльным інкубатары ўпершыню ў гісторыі Гродзенскага заапарка вывяліся чарапашкі. Яны вельмі рухавыя, адчуваюць сябе выдатна і маюць добры апетыт.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ПРЭЗІДЭНТ Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім Указам абвясціў 17 снежня прафесійным святам кінематаграфістаў -- Днём беларускага кіно.

ПАГАДНЕННЕ аб супрацоўніцтве па стварэнню ў нашай краіне сучаснай сістэмы электронных міжбанкавых разлікаў падпісалі старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі С.Багданкевіч і пасол ЗША ў Беларусі С.Яловіц.

ГАНДЛЁВЫ абарот паміж Беларуссю і Польшчай узрос у 1994 годзе ў параўнанні з годам 1993-м на 17 працэнтаў.

СПОЎНІЛАСЯ 100 гадоў Пухавіцкай метэастанцыі, якая была заснавана ў 1894 годзе пры Мар'інагорскай сельскагаспадарчай школе.

АГЕНЦТВА па гандлю і развіццю ЗША дасць нявапалацкаму аб'яднанню "Палімір" 500 тысяч долараў на выкананне тэхніка-эканамічнага абгрунтавання праекта яго мадэрнізацыі.

ВЫРАБЛЕНЫ доследны ўзор беларускага малагабарытнага адна- і двухмеснага верталёта, які будзе выпускаць мазырская ТАА "Гелікаптэр".

АТРАД самааховы, у складзе якога больш за 200 добраахвотнікаў, створаны ў Малаткавічах, пад Пінскам. Ён дапамагае міліцыі бараніць грамадскую і асабістую маёмасць ад злодзеяў.

З 15 БЕЛАВЕЖСКІХ зуброў, завезеных летась у Налібоцкую пушчу, аднаго ўжо няма. Яго застрэлілі браканьеры. А мяса забралі. Гэта дзікае паляванне паставіла на ногі рэспубліканскую і валожынскую пракуратуры, іншыя арганізацыі. Ды вынікаў пакуль -- аніякіх: забойцы не злоўлены.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ: ХТО МЫ ЁСЦЬ?

# І. ПАМІЖ ЖОРНАЎ

У Таліне я не была з 1988 года. Горад і ў тыя часы па эсэсэраўскіх мерках лічыўся еўрапейскім. Сёння ж напярэдадні свята Калядаў увесь абгорнуты ёлачнымі гірляндамі і абсыпаны пераднавагодняй мішурой, расквечаны рознакаляровымі агеньчыкамі і свечкамі, ён выглядае як сапраўдная еўрапейская сталіца.

Вядома, гэта толькі вонкавыя ўражанні. Жыццё ў Эстоніі, як і ва ўсялякай краіне, што перажывае час радыкальных рэформ, яшчэ нялёгкае. Тым не менш зрухі відавочныя. На сучасны момант Мінск і Талін параўноўваць ужо цяжка, а таму застаецца толькі шчыра парадавацца за сваіх былых суграмадзян па Саюзу. І ўсё ж хацелася б нагадаць, што тры гады таму стартавая пляцоўка ў нас была адна, а палітычнае і эканамічнае становішча амаль аднолькавае. Сёння за сваю дзяржаву, яе ўяўны суверэнітэт, за страчаны час не толькі крыўдна, але і сорамна. Выказванне аднаго з маіх спадарожнікаў можа гэта ў нейкім сэнсе патлумачыць: "Я ніколі не думаў, што, каб жыць добра, чалавек павінен трапіць у жорны. І тут ён ці пройдзе праз іх і стане свабодным, ці будзе выкінуты з грамадства. Гэта цяжка ўявіць нам, беларусам, бо ў нас такога няма і наўрад ці будзе".

### БЕЛАРУСЫ Ў ЭСТОНІІ

Беларусаў у Эстоніі налічваецца каля 27 тысяч. Усе яны належаць да катэгорыі так званых рускамоўных (менавіта яны першымі і апынуліся паміж жорнаў). Галоўнае, чаго не хапае сёння эстонскім беларусам, дык гэта еднасці. У Таліне існуе некалькі суполак. Таварыства беларускай культуры, суполкі "Лёс" і "Грунвальд". Усе яны нешматлікія, а амбіцыі іншых кіраўнікоў перашкаджаюць жыць і працаваць разам. Толькі адзіная суполка "БЭЗ" у горадзе Кохтла-Ярве мэтанакіравана і паслядоўна робіць беларускую справу, імкнецца годна прадстаўляць Беларусь у Эстоніі. Але адна суполка вырашыць усе праблемы нацыянальнай меншасці не здольная. Тым больш, што іх вырашэнне залежыць як ад урада Эстоніі, так і ад урада Беларусі.

На аснойных праблемах я хацела б спыніцца больш падрабязна, бо насланаюць яны не толькі беларусаў Эстоніі, а амаль усіх, хто жыве цяпер у блізкім замежжы.

### ПРАБЛЕМЫ РУСКАМОЎНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА

*Як іх бачыць пасол Расіі ў Эстоніі спадар А.ТРАФІМАЎ:*

"Некарэнных жыхароў у Эстоніі зараз каля паўмільёна. Большая частка з іх са сваім грамадзянствам не вызначылася. І зусім не таму, што не маюць сваёй думкі на гэты конт. Людзі жывуць не адзін дзесятак гадоў: адны тут нарадзіліся, у іншых нарадзіліся дзеці, а ў каго памерлі бацькі. Карацей кажучы, людзі ўжо прызвычаіліся лічыць Эстонію сваёй Бацькаўшчынай і жадалі б адчуваць сябе паўнапраўнымі грамадзянамі гэтай краіны. Тут і паўстае першая праблема – атрыманне статуса пастаяннага жыхара, які згодна з эстонскім заканадаўствам, атрымаць вельмі няпроста. Мець грамадзянства -- ужо другі этап і звязаны з умовай добрага валодання эстонскай мовай. Больш таго, згодна з новым законапраектам аб грамадзянстве, патрабаванні да таго, хто экзаменуецца, яшчэ больш ускладняюцца. Акрамя валодання мовай, ён павінен ведаць і весці размову па канстытуцыі Эстоніі, а таксама законах аб мове і грамадзянстве. Але гэта ўжо вымагае паўных юрыдычных ведаў. Ці магчыма пенсіянеру здаць такі іспыт? Вядома, прыкра, што людзі столькі гадоў пражылі ў Эстоніі і не ведаюць мовы, але так складвалася іх жыццё. Сёння большасць рускамоўных мае толькі часовы від на жыхарства, а гэта пазбаўляе іх права на прыватызацыю, дапамогу па беспрацоўю, ускладняе запрашэнне сваякоў".

Што ні кажы, а эстонцы, як той дзядзька вядомага пушкінскага героя, прымусілі сябе паважаць. І сёння гэта іх прывілея: дыктаваць свае ўмовы тым, хто жыве ў іх краіне. Тым больш, што для эстонцаў пры такой колькасці рускамоўных -- гэта пытанне выжывання нацыі, і таму не варта, як кажуць, са сваім статутам лезці ў чужы манастыр.

Дык што рабіць тым, хто страціў надзею здаць іспыт? Людзі стаміліся быць нікім і пачынаюць шукаць іншае выйсце. Яны жадаюць выпрабаваць яшчэ адзін шанц вызначыцца -- атрымаць нарэшце хаця б грамадзянства той краіны, з якой яны паходзяць (ахвяруючы нават нейкімі прывілеямі, згодна з эстонскім заканадаўствам). Пэўна ў гэтым беларуская дзяржава і магла б падтрымаць сваіх суайчыннікаў.

### ЦІ МАГЧЫМА БЕЛАРУСАМ У ЭСТОНІІ СТАЦЬ ГРАМАДЗЯНАМІ БЕЛАРУСІ?

Згодна з артыкулам 17 Закона аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, які дзейнічае з 12 лістапада 1991 года, усе этнічныя беларусы могуць атрымаць беларускае грамадзянства. На жаль, гэта падыходзіць толькі для таго ідэальнага выпадку, калі муж, жонка і дзеці нарадзіліся ў Беларусі. Але калі мы жылі ў многанацыянальнай краіне, дык шмат у якіх сем'ях жонка і муж па пашпарту маюць розныя нацыянальнасці. Таму, каб не прадстаўляць дзве дзяржавы ў адной сям'і, тыя, хто лічыць сябе беларусамі, мусяць прымаць расійскае грамадзянства, за выключэннем тых, хто некалі быў пастаянна прапісаны ў Беларусі. Вось так і парушаюцца нашы карані. Дзейнічае прынцып: няма чалавека – няма і праблемы.

Яшчэ адно пытанне, якое вельмі клапоціць беларусаў у Эстоніі, -- прыезд на радзіму.

### ЯК НАВЕДАЦЬ МАГІЛЫ БАЦЬКОЎ!

Візавы рэжым з Эстоніяй уведзены 1 кастрычніка 1993 года, але на асоб без грамадзянства да пэўнага часу ён не распаўсюджваўся.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ГОД САБАКІ — ГОДУ СВІННІ:

## НЕ ВІШЧЫ НА ВЕЦЕР, НЕ СЛУХАЙ КАЗАК ПРА БЕЛАГА БЫЧКА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Калі справа будзе рухацца так і надалей, то ўжо вельмі хутка мы згубім нават тыя крыхі, што змаглі дагэтуль сабраць на ніве нацыянальнай ідэі, усталявання беларускай мовы ў адукацыі, культуры, справаводстве. І вось ужо чуваць з самых высокіх трыбун: трэба перагледзець



новыя школьныя падручнікі па гісторыі; святкаванне Аршанскай бітвы 1514-га -- шабаш, недапушчальны ў будучыні; беларуская мова не дае прастору, каб перадаць усё багацце думкі; дзяржаўны суверэнітэт — справа далёка не першасная, а бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоню" трэба зноў памяняць. На што памяняць? Выразных прапаноў няма, але паміж радкоў такіх патрабаванняў няцяжка прачытаць: на бела-чырвона-сіні і двухгаловага арла... А калі ў вышэйшых эшалонах дзяржаўнай улады пануе такі настрой, то пра якое дзяржаўнае ўмацаванне, пра які рост міжнароднага аўтарытэту можна казаць? Складваецца сумнае ўражанне: Беларусь як была "тэра інкогніта" для сусветнай супольнасці, такой і застанецца назаўсёды, наваt нягледзячы на тое, што месціцца ў цэнтры Еўропы.

Беларускія сродкі масавай інфармацыі даволі шырока асвятлялі снежанскі візіт Прэзідэнта Лукашэнкі ў Венгрыю на сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў дзяржаў—удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Сярод загалоўкаў інфармацыйных паведамленняў былі і такі: "Беларусь выходзіць у Еўропу". Так, вельмі хацелася б у гэта паверыць. Але міжволі думаеш і пра іншы варыянт. Як вядома, пасля распаду СССР на тэрыторыі Беларусі засталася ядзерная зброя, што пры нашай постсавецкай палітычнай калатнечы вельмі турбавала тую ж Еўропу. У Будапешце Беларусь у абмен на гарантыі бяспекі з боку ЗША, Вялікабрытаніі і Расіі адмовілася ад свайго ядзернага арсенала "без усялякіх умоў". Такім чынам, Еўропа дамаглася таго, што ёй было патрэбна: ліквідавана патэнцыяльна небяспечная для яе ядзерная пагроза. І вось тут паўстае пытанне: ці ўпэўнены нашы палітыкі, наш прэзідэнт, што ў Еўропы захавацца і надалей цікавасць да Беларусі, што Беларусь, якая як "шэры" троечнік, нічым і нідзе не вызначаецца, пусціць далей еўрапейскіх сенцаў? Вось таму і трэба глядзець на Усход, а не на Захад, кажуць многія беларускія палітыкі, эканамісты, гаспадарнікі. Але калі нецікава адным, то чым прывабім іншых? Дабрачыннасць на тэрыторыі цяперашняга СНД не ў вялікай пашане, тым больш у міждзяржаўных адносінах, тады застаецца толькі адно: ад Беларусі хочуць атрымаць нейкую карысць. І гэта нармальна, але толькі тады, калі і Беларусь, што называецца, свайго не ўпусціць. Беларускія кіраўнікі не пераконваюць: так яно і ёсць. Але чаму тады мы жывём значна горш, чым нашы "дзелавыя" партнёры? Мінімальная заработная плата ў Беларусі пакрывае толькі 6—7 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту, сярэдні заробак не








перавышае дваццаць долараў.

Здаецца, усё на Беларусі спакойна: грамадзянскай вайны, дзякуй Богу, няма, людзі хочуць працаваць... А краіна ў даўгах. Чаму? Адказаў можна знайсці шмат. Але не апошнюю ролю, здаецца, адыгрывае тое, што як ранейшае, так і цяперашняе беларускае кіраўніцтва ніяк не вызначыцца, што рабіць: ісці ўперад па шляху эканамічных і палітычных рэформ можна, але не хочацца, вяртацца назад -- хочацца, але ўжо немагчыма. Вось і топчамся, топчамся на месцы.

Цяпер нам імкнуцца давесці, што новы склад парламента, які будзе выбраны наступнай вясной, нешта зрушыць. Партыйй у сувязі з гэтым "напладзілася" — не пералічыць: многім хочацца ўхапіць кавалачак уладнага пірага, дзякуй, умовы дазваляюць гэта зрабіць. Вось толькі, каб зноў не атрымалася так, як было неадночы: за нэпростую справу кіравання дзяржавай браліся тыя, хто ў гэтым ну зусім нічога не разумеў. Але калі ж мы пазбегнем такой небяспекі, то тады, магчыма, пад наступнай святочнай ёлкай размова будзе ўжо весцяся не толькі пра другі пакойчык на лецішчы, але наваt і пра другі паверх, а трусы паўшубак памяняюцца на лісіны...

Адыходзіць 1994-ты -- год Сабакі, на парозе 1995-ты -- год Свінні. Журботныя ўспаміны аб тым, што мінула. Кволыя спадзяванні на лепшае, што прынясе нам прышласць. А можа тое лепшае зноў акажацца казкай пра белага бычка, якую нам баяць з году ў год палітыкі...

Галіна УЛІЦЁНАК.

**БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ**

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Дэлегаты з месцаў, што сабраліся на з'езд напярэдадні паўстання, разважалі так:"Не трэба нам вялікіх палітыкаў Вітэ і плаціць падаткі. Мы страна маленькая, самі ўправімся. А калі трэба плаціць падаткі, то лепш свайму ўраду і свайму войску..." "Националистические настроения населения были достаточно сильны, можно было рассчитывать на успех", -- сведчыў на допыце ў ДПУ ў 1930 годзе Уладзімір Пракулевіч. Сярод іншых прычын мяцяжу ён зазначыў незадаволенасць сялянства харчразвёрсткай і шматлікімі рэквізіцыямі, нежаданне служыць у Чырвонай Арміі. Лозунгі, з якімі яна крочыла на захад: "Да здравствует мировая революция! Да здравствует Советская власть во всем мире! Да здравствует советская Польша!" -- не натхнялі мясцовае насельніцтва. Дэзерцірства з Чырвонай Арміі мела каласальныя памеры. Гэта была адна з вельмі распаўсюджаных форм супраціўлення нязванай і нежаданай уладзе. У.Пракулевіч пісаў, успамінаючы восень 1920 года: "Громадные скопища дезертиров Красной Армии, частью вооруженных, целыми отрядами проходили в свои родные места... активно выражали антисоветские настроения". Высвятляе прычыны слуцкіх падзей яшчэ адно красамоўнае сведчанне, якое ў архіве КДБ пакінуў вязень Салавецкага лагера, а да гэтага --удзельнік Слуцкага паўстання, курсант Лодзінскай вайсковай школы (так званай балахоўскай) Аляксандр Бараноўскі: "Паведамленні аб расстрэлах пагалоўна ўсіх, хто дасягнуў мабілізацыйнага ўзросту і не служыў у Чырвонай Арміі, аб закрыцці навучальных устаноў, аб зверствах над насельніцтвам, аб рабаваннях і гвалце прынялі каласальныя памеры... Насельніцтва не верыла ў магчымасць аднаўлення польскай улады, ды і не жадала яе, а савецкая ўлада... была страшная". Як бачым, страх, інстынкт самазахавання вымушалі пакідаць роднае гняздоўе, браць у рукі зброю.

Яшчэ адзін момант вельмі важны, на мой погляд, для разумення прычын і абставін тых падзей. Случакі ведалі, што ў сваёй барацьбе за незалежнасць, за самастойнае жыццё яны не адны. Паручнік Мацелі, арганізатар слуцкай народнай міліцыі і вайсковых адзінак у час паўстання, адразу інфармаваў слуцкі Нацыянальны камітэт аб шматлікіх паўстаннях супраць Саветаў на Міншчыне. Аб тым, што гэта было на самай справе, сведчаць шматлікія дакументальныя крыніцы. Так, 28 кастрычніка 1920 года (звярніце ўвагу на дату!) на стол А.Чарвякову, які ў той час стаяў на чале рэўкома ССРБ, лягла зводка Барысаўскага павятовага камісара.

"...настроение крестьян враждебно к советской власти... случались столкновения с крестьянами. Были случаи ареста целых деревень, в то время как крестьяне не были виновны.

Так, особым отделом 27-й дивизии были арестованы граждане деревни Новоселки Лошницкой волости за бандитизм (за ўзброенае супраціўленне ўладзе. -- **Н.С.**). Подобное явление, конечно, вызвало возмущение крестьян.

Служащие советских учреждений во время последней эвакуации города (Барысава. -- **Н.С.**). показали истинные политические взгляды, более 60 процентов являются контрреволюционным элементом...

По всему уезду кулацко-шляхетский элемент... ведет злостную антисоветскую и антисемитскую пропаганду. К ликвидации этого явления принимаются меры, но они не приводят к желаемому результату, ибо кишащие кругом банды (г.зн. паўстанцкія атрады. -- **Н.С.**) мешают этому.

Зеленая армия в Борисовском уезде разрослась до неимоверных размеров, нет ни одной волости уезда, где бы не было банд. Особенно много их в некоторых волостях, где есть для них природные убежища... в настоящее время все эти мелкие шайки организовались и сконцентрировались в следующих волостях: Логойская, Плещеницкая, Гайно-Слободская и Зембинская... Точных цифр неизвестно, но, по слухам, по всему уезду имеется несколько тысяч бандитов... В настоящее время банды начали действовать более открыто. Они напали на Гайно-Слободу и местечко Плещеницы, которое некоторое время находилось в руках бандитов (гэта значыць паўстанцаў. -- **Н.С.**).

Масса дезертиров оказалась среди Борисовского гарнизона. Так, дезертировал весь кавалерийский отряд Борисовского военкомата, прихватив лошадей, збрую и вооружение. Также много дезертиров оказалось среди милиции, более 50 процентов. Многие ушли с постов. Также ушли милиционеры, охранявшие тюрьму...

Банды мешают проведению всей политической работы и проведению продовольственной и аграрной политики советской власти".

У Халопенічах на беспартыйнай канферэнцыі, як даносіў Чарвякову павятовы камісар, была "принята резолюция, в которую внесены слова контрреволюционного пожелания: желаем мирным путем освободить Беларусь от польских и советских войск и дать ей возможность самоопределиться без чьей бы то ни было диктатуры" (ні з Польшчай, ні з Масквой. -- **Н.С.**).

Вельмі падобную карціну малюе даклад ад 15 лістапада ў Ваенрэўком ССРБ аб стане ў Мінскім павеце: "...Население некоторых волостей, узнав о самоопределении Беларуси, не хочет признавать никакой власти, кроме несуществующего правительства "Незалежнай Беларусі", и относится очень враждебно к организуемым волостным ревкомам, заявляя, что власть нужно выбирать, а не назначать из Москвы".

Такім чынам, увосень 1920 года агульны незалежніцкі настрой панаваў сярод беларусаў.

**Працяг.**
**Пачатак у № 50, 51.**

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**





**Дарога з Гайнаўкі ў Белавежу надзвычай прыгожая.. Дрэвы літаральна змыкаюць кроны над дарогай.**

**Пры ўездзе ў Белавежу -- цэнтр польскай часткі Белавежскай пушчы -- перад вачыма паўстае незвычайная карціна. На прасторнай паляне раскінуліся прыземістыя пабудовы пад саламянымі стрэхамі. Побач -- калодзеж-журавель і высокія вежы млыноў з ажурнымі крыламі. Такога ўжо не сустрэнеш у вёсках сучаснай Польшчы. Хто ж захаваў для нашчадкаў гэтую мініяцюрную вёсачку, што прыйшла да нас з мінуўшчыны!**

**Па ініцыятыве аднаго з актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Міхаіла Байко было задумана стварыць невялікі музей сельскага быту. Міхаіл аб'яднаў вакол сябе дзесяць такіх, як і сам, энтузіястаў, і справа закіпела.**

**Набылі ўчастак зямлі на ўскраіне Белавежы і сталі шукаць і звозіць старыя і ўжо нікому непатрэбныя пабудовы. Колькі часу і працы было пакладзена на рэстаўрацыю і збор экспанатаў для інтэр'ераў сельскіх дамоў! Колькі праблем было пераадолена!**

**Не дарэмная была праца энтузіястаў: сёння ўсе, хто прыязджае ў Белавежу, наведваюць унікальны музей.**

**Цікава і тое, што частка пабудоў унутры абсталявана пад сціплае жыллё. Гэта дае магчымасць рэгулярна збірацца тут на розныя святы і фестывалі моладзі з усёй Беласточчыны. Бываюць тут і госці з Беларусі. На спецыяльнай пляцоўцы ля ракі запальваюцца кастры і гучаць народныя мелодыі, беларускія песні.**

**НА ЗДЫМКАХ: адзін з куткоў музея сельскага быту ў Белавежы; Міхаіл БАЙКО -- ініцыятар стварэння музея і яго экскурсавод.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

# ПАМІЖ ЖОРНАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Летам (заўважце, якраз напярэдадні масавага адпачынку) пачынае дзейнічаь "Інструктыўны ліст аб парадку ўезду ў Беларусь...", згодна з якім візавы рэжым ужо тычыцца ўсіх, хто пастаянна пражывае на тэрыторыі Эстоніі. А калі ўлічыць, што шлях да Беларусі ляжыць яшчэ праз Латвію і Літву, дык віз патрэбна аж тры.

Выдаецца віза на падставе афармленага ў АВІРы запрашэння і каштуе тры долары. У дадатак патрэбна яшчэ тры фотаздымкі для анкет і невядома колькі часу, праведзенага ў чэргах да консульства.

Ну а што рабіць тым, у каго на радзіме засталіся толькі магілы бацькоў? Ім для атрымання візы тут спатрэбіцца даведка ад мясцовых улад, якая пацвердзіць месца пахавання іх бацькоў. Але хто дашле даведку і колькі будзе страчана намаганняў і часу, каб нарэшце пакланіцца роднай зямлі і дакрануцца да халоднага каменя на магіле маці ці бацькі? Гэта ўжо нікога не турбуе.

Я пералічыла самыя хвалюючыя і самыя балючыя пытанні. Наогул іх значна больш: развіццё беларускай культуры ў замежжы, адкрыццё нядзельных школаў, падрыхтоўкі кадраў, наладжванне кантактаў паміж бізнесменамі і шмат, шмат іншых. Але, каб усе праблемы вырашыць, беларусы павінны спачатку асэнсаваць, хто ж яны ёсць у свеце, і вызначыцца з агульнай масы рускамоўнага насельніцтва. Дарэчы, менавіта гэта пытанне было галоўным на парадку дня з'езда беларусаў Балтыі, які адбыўся ў жніўні ў Вільні.

Здаецца, беларусы Эстоніі падышлі ў разуменні праблемы даволі блізка і вырашылі выкарыстаць свой апошні шанц -- заняць годнае месца сярод іншых нацыянальных меншасцей, якія жывуць у краіне. Ініцыятарам аб'яднання эстонскіх беларусаў стала Ніна Савінава, якая нарадзілася на Брэстчыне, скончыла Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча, а потым Мінскі інстытут культуры, працавала на заводзе "Гарызонт". З 1981 года яна жыве ў Таліне, працуе ў сістэме Міністэрства культуры Эстоніі, неаднаразова прадстаўляла беларусаў Эстоніі на міжнародных канферэнцыях па нацыянальных меншасцях.

-- Я ведала, што існуюць беларускія суполкі, але кантактаў з імі не мела. Раптам у прэсе пачалі з'яўляцца артыкулы прадстаўнікоў адной з суполак, якія мяне вельмі засмуцілі, бо падаліся неправеранымі. Я пайшла ў "Лёс". Была там некалькі разоў, прапанавала працаваць разам, і мне нават падалося, што яны мяне падтрымаюць. На справе выйшла зусім не так. Зараз моцна сталі на ногі згуртаванні армян, азербайджанцаў, украінцаў, яўрэяў. Урад Эстоніі не толькі вітае, але і падтрымлівае тых, хто захоўвае свае карані, шануе сваю культуру. За беларусаў жа толькі крыўдна.

Пераадолеўшы крыўду, Ніна ўзялася за справу. Яна паехала ў Мінск, дзе наведала Міністэрства культуры, таварыства "Радзіма", ЗБС "Бацькаўшчына", іншыя ўстановы, і знайшла падтрымку. Вярнуўшыся, далучыла да справы былога консула Беларусі ў Таліне Міхаіла Саўчанку, згуртавала вакол сябе як людзей культуры, так і бізнесменаў. Нарэшце разам з супрацоўнікам ЗБС "Бацькаўшчына" Нінай Петуховай была выканана вялікая арганізацыйная праца, да якой далучыліся і прадстаўнікі беларускіх суполак. Як вынік -- быў праведзены ўстаноўчы сход па ўтварэнню новай арганізацыі -- Беларускі цэнтр культуры "Бацькаўшчына". Але да атрымання юрыдычнага статуса новай арганізацыяй марай Ніны Савінавай было правесці імпрэзу "Спатканне", дзе б сабралася як мага больш беларусаў для знаёмства, для абмеркавання далейшай працы, а таксама каб прадэманстраваць, што ёсць у Эстоніі сапраўдныя беларусы, існуе беларуская культура і наогул ёсць у свеце дзяржава -- Беларусь. Адбылася яна 10 снежня. Аб тых, хто прыйшоў спаткацца з беларусамі і як усё адбывалася, я раскажу ў наступным нумары.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

273

**ПРАСАВЕЦКАЯ ПАРТЫЯ.** Але не ўсе эсэры прытрымліваліся такіх поглядаў, не ўсе верылі ў спрыяльныя вынікі барацьбы на два фронты. Левае крыло партыі пачало арыентавацца на саюз з бальшавікамі. І гэты рух быў узаемным. ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі ўжо не мог тады ігнараваць беларускія нацыянальныя сілы. Былыя эсэры У. Ігнатоўскі, Я. Каранеўскі, М. Кудзелька (паэт Міхась Чарот) і іншыя стварылі 1 студзеня 1920 года Беларускую Камуністычную арганізацыю (БКА). Яна мела сваім цэнтрам Беларускі педагагічны інстытут у Мінску і абапіралася на падтрымку вясковых настаўнікаў і сялян. Гэтая арганізацыя разгарнула шырокі партызанскі рух супраць польскіх акупантаў і імкнулася накіраваць беларускае адраджэнне ў чырвоным напрамку. З вяскоўцамі беларускія камуністы размаўлялі на іх роднай мове. Польскі шавінізм штурхаў беларусаў у абдымкі расійскіх бальшавікоў-інтэрнацыяналістаў.

## 26.4. Як нас дзяліла Расія з Польшчай

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ ВЯСНОЙ І ЛЕТАМ 1920 ГОДА.** Партызанскі рух, у тым ліку і бальшавіцкі, змяншэнне эканамічнай дапамогі з боку Антанты, дэмаралізацыя вайскоўцаў аслаблялі польскі акупацыйны рэжым на Беларусі. А з другога боку, паляпшэнне міжнароднага становішча Савецкай Расіі, якой удалося дабіцца

274

поспехаў на асноўных франтах грамадзянскай вайны, дазвалялі ёй канцэнтраваць ваенныя сілы супраць Польшчы. 14 мая 1920 года Чырвоная Армія перайшла ў наступленне, якое, аднак, хутка захлынулася. Затое праз месяц поспех спадарожнічаў чырвонаармейцам. Малады Міхаіл Тухачэўскі, выхадзец з беларускай смаленскай шляхты, трымаў курс на Варшаву, каб распаўсюдзіць і на Еўропу свята сацыялізму. Напярэдадні на Заходнім фронце пабывалі бальшавіцкія камісары Калінін і Сталін. 11 ліпеня Чырвоная Армія захапіла Мінск, а да канца жніўня дакацілася да Варшавы. Але там чырваназорныя пасланцы сацыялізму, часта галодныя і паўразутыя, сустрэлі ўпартае супраціўленне. Войска Польскае змагло аправіцца і 16 жніўня перайшло ў контрнаступленне. Варшаву ўратавалі ў значнай меры 19-я ды 22-я беларускія дывізіі, якія былі сфармаваны з жыхароў мястэчак і вёсак, што паміж Віліяй і Нёманам... Мінск зноў на нейкі час перайшоў у рукі палякаў. Дзесяткі тысяч палонных чырвонаармейцаў, у тым ліку і беларусаў, гінулі ад голаду і хвароб.

**ПАЧАТАК БАЛЬШАВІЦКАГА ГАНДЛЮ БЕЛАРУСКІМІ ЗЕМЛЯМІ.** Ужо ў ходзе наступлення на Варшаву савецкі ўрад пачаў дзяліць беларускія землі. Ведаючы, што Літва варагуе з Польшчай, ён схіліў літоўскае кіраўніцтва да падпісання мірнага дагавора 12 ліпеня 1920 года ў Маскве. У адпаведнасці з ім, таталітарны рэ-

275

жым Расіі прызнаваў незалежнасць Літоўскай Рэспублікі, а Віленскі край (з Гроднам, Шчучынам, Лідай, Ашмянамі, Смаргонню, Свірам, Браславам) — яе неад'емнай часткай, 14 ліпеня Чырвоная Армія заняла Вільню, а ў жніўні перадала яе Літве. Бальшавікі дабіліся таго, што літоўская дзяржава ўцягвалася ў вострую канфрантацыю з Польшчай і БНР, якія прэтэндавалі на гэтыя ж тэрыторыі. Па жнівеньскаму дагавору 1920 года з Латвіяй Масква перадала ёй памежную паласу беларускіх земляў Віцебшчыны разам з Дзвінскам.

**САВЕТЫЗАЦЫЯ ЎСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.** Актывізацыя савецка-польскай вайны суправаджалася актыўнай палітычнай і дыпламатычнай дзейнасцю ленінскага ўрада, у якую былі ўцягнуты і беларускія лідэры. На захопленых чырвонай Расіяй беларускіх землях зноў насаджалася ўлада Саветаў. Яшчэ да захопу Мінска стварыўся Мінскі ваенны рэвалюцыйны камітэт. 31 ліпеня 1920 года ён рэарганізаваўся ў Ваенрэўком БССР на чале з Алесем Чарвяковым. У яго склад увайшлі прадстаўнікі беларускіх эсэраў і бундаўцаў. Адначасова ішла падрыхтоўка да аднаўлення савецкай дзяржаўнасці на Беларусі. Гэтага настойліва патрабавалі беларускія камуністы, якія даказалі сваю адданасць Маскве барацьбой з палякамі. Аб узнаўленні Літбела не магло быць і гаворкі. Літоўскі народ ужо стварыў сваю асобную дэмакратычную рэспубліку.

276

Ленінскі ўрад яшчэ вясной 1920 года і не спадзяваўся, што яму ўдасца ўтрымацца на Беларусі. І тое, што бальшавікам усё ж дасталася ўсходняя Беларусь, разглядалася як падарунак лёсу. А дзеля такога шчаслівага выпадку можна было і падзяліцца трошкі ўладай з мясцовымі нацыянал-камуністамі. Тым больш, што грамадзянская вайна пераканала Леніна, што без падтрымкі прасавецкіх нацыянальных сіл бальшавіцкую імперыю не ўтварыць. Каб прадухіліць пераход улады ў рукі нацыянальных сіл, бальшавікі самі апраналіся ў нацыянальныя адзенні.

**ДРУГОЕ АБВЯШЧЭННЕ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ НА БЕЛАРУСІ.** 31 ліпеня 1920 года публікуецца Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ). Ад мясніконўскай назвы БССР мясцовыя чырвоныя дзеячы адмовіліся. Беларускія эсэры ўвогуле патрабавалі стварыць урад з прадстаўнікоў усіх сацыялістычных партый, арганізацыі самастойнага беларускага войска і абвяшчэння поўнай незалежнасці Беларусі. Але Дэкларацыя толькі паўтарала Маніфест марыянетачнага ўрада З. Жылуновіча ад 1 студзеня 1919 года. А таму эсэры адмовіліся падпісаць яе. Нацыянал-камуністы ж пайшлі на супрацоўніцтва з захопнікамі, бо верылі ў магчымасць камуністычнай незалежнай

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

277

Беларусі. Хоць абласнікі прама заяўлялі, што разглядаюць ССРБ як нацыянальна-культурную аўтаномію беларусаў у складзе адной Мінскай губерні, якая толькі ставрае ўмовы для поўнага зліцця гэтай тэрыторыі з Савецкай Расіяй. Ужо ў канцы 1920 года бальшавікі выдалі цыркуляр аб перапісцы паміж камісарыятамі ССРБ абавязкова на рускай мове.

**ПАЗІЦЫЯ ЎРАДА БНР.** Кіраўніцтва БНР не прызнала абвешчанай ССРБ і характарызавала другое ўсталяванне на Беларусі савецкай улады як маскоўскую акупацыю. Яно патрабавала ад ленінскага ўрада вываду Чырвонай Арміі і прызнання незалежнасці Беларусі. Патрабаванне незалежнасці прад'яўлялася і да Польшчы, пасля чаго беларускі ўрад згаджаўся на сумесную барацьбу з бальшавікамі. Тым больш, што Польшча ўжо прызнала Украіну і Літву. Але ні ў Маскве, ні ў Варшаве беларусаў не хацелі слухаць.

**УСТАЛЯВАННЕ ПРАПОЛЬСКАГА РЭЖЫМУ ЖЭЛІГОЎСКАГА НА ВІЛЕНШЧЫНЕ.** Пасля таго, як Чырвоная Армія адкацілася пад ударамі Войска Польскага аж за Мінск, 9 кастрычніка 1920 года польскі генерал Ю. Жэлігоўскі, ураджэнец Ашмян і камандзір 19-й і 22-й беларускіх дывізій, атакаваў новыя ўладанні Літвы, захапіў Вільню і аб'явіў сябе дыктатарам так званай Сярэдняй Літвы. Літоўскі ўрад разрывае дыплама-

278

тычныя адносіны з Польшчай і фактычна вядзе з ёю неаб'яўленую вайну. На літоўскі бок становіцца і ковенскі ўрад Народнай Рады БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім. Група ж беларускіх дзеячаў у Вільні, якая гуртавалася вакол Белнацкама (10.10.1920) на чале з Антонам Луцкевічам пайшла на супрацоўніцтва з Жэлігоўскім у надзеі на стварэнне беларускага кантона на Віленшчыне. Справа ў тым, што беларускія лідэры Вільні трапілі ў палон спакуслівай ідэі ўтварэння на ўсходніх землях трох кантонаў, якую прапаноўваў свайму ўраду прафесар гісторыі Вітольд Камянецкі: 1. Літва Заходняя з Коўнам (літоўскі); 2. Літва Сярэдняя з Вільняй (польска-беларускі); 3. Літва Усходняя з Мінскам (беларускі). Яны сталі б федэратыўнымі адзінкамі польскай дзяржавы. В. Іваноўскі ўваходзіў у склад урада Сярэдняй Літвы да снежня 1920 года.

**САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЕ ПЕРАМІР'Е 1920 ГОДА І ЯГО ЎМОВЫ.** 12 ліпеня 1920 года англійскі міністр замежных спраў Дж. Керзан прапанаваў ваюючым бакам размежаванне па лініі Гродна — Ялаўка — Няміраў — Брэст. Аднак яно было адхілена савецкім і польскім урадамі. На мірных перамовах у Рызе (з верасня 1920 года) Расія згаджалася перадаць Польшчы нават Міншчыну ўзамен на прызнанне польскім бо-

279

кам Украінскай ССР. Але эндэкі не дапусцілі гэтага, бо баяліся, што ўзрослую колькасць праваслаўнага насельніцтва не ўдалося б паланізаваць. 12 кастрычніка 1920 года ў Рызе Савецкая Расія і Украіна, з аднаго боку, і Польшча, з другога, выпрацавалі папярэднія ўмовы міру. Беларусь на перамовах прадстаўляла расійская дэлегацыя. Такія паўнамоцтвы яна атрымала не ад беларускага народа, а ад Белрэўкома, які стварыўся Масквой. Ужо каторы раз чужынцы вырашалі лёс нашай Бацькаўшчыны. Дагавор (п. 1) прызнаваў незалежнасць Украіны і Беларусі? Але якой Беларусі? І якой Украіны? Тады яшчэ не ўсе разумелі, што Польшча пайшла на прызнанне Савецкай Беларусі, Савецкай Украіны, а ўзамен атрымала вялікія беларускія і ўкраінскія тэрыторыі. І гэта быў удар у спіну беларускаму нацыянальна-вызваленчаму руху. Палякі згадзіліся адвесці свае войскі з некаторых тэрыторый, якія яны займалі пасля вясенькага контрнаступлення, але ненамнога. Мяжа падзелу БНР праходзіла адразу ж на захад ад Мінска, Дрысы (на поўначы) і Турава (на поўдні). За абвешчанай ССРБ, як на смех, пакідалася ўсяго шэсць паветаў былой Мінскай губерні — Мінскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Ігуменскі, Мазырскі і Слуцкі. Усе астатнія беларускія землі забірала бальшавіцкая Расія.

280

## 26.5. Нацыянальна-вызваленчыя паўстанні 1920 года

**ПАЛІТЫЧНЫЯ ПРАТЭСТЫ.** Усе дзеячы БНР аднесліся да папярэдняга савецка-польскага дагавора рэзка адмоўна. Рэзалюцыя Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі ад 20 кастрычніка прызнавала яго не абавязковым для беларускага народа і заклікала ўсімі спосабамі і сродкамі весці з яе ворагамі барацьбу і далей за незалежную Беларусь. Пратэст супраць падзелу Беларусі і патрабаванне ачысціць беларускія землі ад акупантаў вынесла і Канферэнцыя беларускіх сацыялістычных партый, якая таксама праходзіла ў кастрычніку. Акрамя таго, кіраўніцтва БНР патрабавала запрашэння сваіх прадстаўнікоў на будучыя перамовы аб канчатковым міры. 8 лістапада сумесны пратэст супраць савецка-польскага згавору выказалі дэлегацыі Усходне-Галіцкай Рэспублікі і БНР, якія прыбылі ў Рыгу для абароны сваіх дзяржаўных інтарэсаў. Ажывіліся прыхільнікі беларуска-літоўскай канфедэрацыі. Перад пагрозай падзелу Беларусі і агрэсіі з боку Расіі і Польшчы 27 кастрычніка ўрад Ластоўскага звярнуўся да краін Балтыі з ідэяй Чарнаморска-Балтыйскага саюза і яшчэ раз падкрэсліваў, што не спыніць барацьбы за незалежнасць. Савецкай Расіі і Польшчы фактычна аб'яўлялася вайна.

## ЛЮБІМАЯ ТЭМА МАСТАКА — ПАЛЕССЕ





**У кожнага мастака ёсць любімыя тэмы. Ва Уладзіміра Сулкоўскага гэта беларускае Палессе.**

**Яшчэ будучы студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута, Уладзімір штогод на некалькі месяцаў ехаў на Брэстчыну ці Гомельшчыну, каб сабраць матэрыял для сваіх будучых работ. Вёска за вёскай абышоў ён усё Палессе, робячы замалёўкі палешукоў, іх быту, традыцый і абрадаў. Са скрупулёзнасцю даследчыка унікаў ён у асаблівасці нацыянальнага касцюма, прадметаў быту.**

**Дыпломная работа Уладзіміра называлася "На родным Палессі".**

**Паралельна з тэмай Палесся спела і іншая, не менш захапляючая і цікавая. Вытокам яе была ўлюбёнасць у паэзію Якуба Коласа. Так нарадзіўся цыкл, прысвечаны паэме "Новая зямля". На яго стварэнне пайшлі многія гады.**

**Сёння Уладзімір Сулкоўскі поўнасцю аддадзены рабоце над увасабленнем любімай тэмы -- Палесся. Ідзе пераасэнсаванне багатага матэрыялу, сабранага ў студэнцкія гады. Цяперашні ж лёс краю ён успрымае праз прызму чарнобыльскай катастрофы, знаходзіць выразныя сродкі для перадачы трагедыйнасці сітуацыі.**



**Пройдзе час, і мы сустрэнемся з новымі работамі Уладзіміра Сулкоўскага на чарговай выстаўцы. І, думаю, не застанемся раўнадушнымі. Таму што ўсё, ім напісанае, прайшло праз сэрца, якое хварэе за родны край.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір СУЛКОЎСКІ; працы мастака "Навальніца на Палессі", "Верасень".**

**Фота аўтара.**

## ШТО ГОД НАСТУПНЫ НАМ РЫХТУЕ?

# З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ЗДАРОВАГА СЭНСУ

Як маглі заўважыць пастаянныя чытачы нашай газеты, "Голас Радзімы" не мае звычаю друкаваць папулярныя зараз астралагічныя прагнозы. Але ж пад Новы год захацелася і нам трохі зазірнуць у будучыню, тым больш, што нават царква спрадвеку на варажбу перад Нараджэннем Хрыстовым глядзіць скрозь пальцы. З гэтай нагоды і запрасілі мы ў рэдакцыю прадстаўніц існуючай у Мінску Авесцíйскай школы астралогіі Вераніку Кудраўцаву і Алену Гракаву. Перш чым пацікавіцца, што нас чакае ў надыходзячым годзе, я папрасіла нашых гасцей растлумачыць, як тут, у Беларусі, узнікла астралагічная школа заморскай багіні, імя якой большасць з нас і прачытала зараз упершыню. Аказалася, што ўсё заканамерна, бо з пункту гледжання прыхільнікаў АША (як скарочана яны сябе клічуць), гэта суцэльна славянская сістэма патаемных, унутраных, іншым словам, эзатэрычных, ведаў, традыцыя, што спакон веку існавала на нашай тэрыторыі, аб таямніцах якой ведалі толькі спецыяльна азнаёмленыя людзі. Прычым, справа была не ў тым, што ім падабалася адчуваць сябе абранымі ці нейкімі асаблівымі, -- свае тайны яны зберагалі ад людзей цёмных і несумленных, каб тыя не маглі выкарыстаць іх у брудных мэтах. Зараз галоўным і найбольш вядомым прадстаўніком гэтай школы з'яўляецца Павел Глоба, які больш як чатыры гады таму і заснаваў яе ў Мінску. Але ж беларуская астралогія, як растлумачылі мне жанчыны, мае значна глыбейшыя карані, бо ёю захапляўся Францыск Скарына, а Сімяон Полацкі ў свой час прадказаў маці Пятра І нараджэнне вялікага сына. І, дарэчы, быў яго выхавацелем. Да таго ж, многія нашы звычаі і традыцыі маюць глыбінны сэнс, які з цягам часу ўжо забыўся, і людзі не заўсёды нават разумеюць, чаму менавіта так ці інакш адзначаюцца некаторыя народныя святы, такія, як, напрыклад, Купалле. А ў яго аснову, па словах нашых гасцей, пакладзена вельмі цікавая містэрыя Ізіды і Азірыса, накіраваная на ачышчэнне чалавека праз сем стыхій, якое знайшло сваё адлюстраванне ў такіх абрадах, як абмыванне вадой, скокі праз вогнішча, развешванне раслін на дахах дамоў, пошукі папараць-кветкі.

Вераніка Кудраўцава зараз заканчвае працу над кніжкай аб Мірскім замку, на які яна паспрабавала паглядзець з пункту гледжання астролага. Склаўшы ягоны гараскоп, яна прыйшла да высновы, што лёс гэтай унікальнай архітэктурнай пабудовы праецыруецца на лёс нашай краіны, а часам падзеі, якія адбываліся з ім, прадбачылі ці ўплывалі на гістарычныя з'явы ва ўсёй Беларусі. А яшчэ Вераніка Іванаўна з дапамогай зорак вылічыла дакладную дату заснавання Мірскага замка: па яе разліках, гэта адбылося 22 кастрычніка па старому, ці 1 лістапада па новаму стылю, у 1503 годзе. І ўвогуле, шмат чаго загадкавага і нават містычнага звязана з гэтым месцам... Між іншым, у працэсе знаёмства з астролагамі містыкай павеяла і на далёкага ад забабонаў аўтара гэтага артыкула: падчас інтэрв'ю адмовіўся працаваць магнітафон, які спраўна працаваў раней і таксама ж добра запрацаваў пасля, а калі днямі пазваніла жанчынам, каб удакладніць некаторыя дэталі, у час размовы спыніўся адзіны ў доме гадзіннік. Вось і заставайся пасля гэтага матэрыялістам...

Але ж існуючая ў Мінску Авесцíйская школа астралогіі займаецца не толькі пытаннямі мінуўшчыны. Астролагі могуць пракансультаваць у тым выпадку, калі вы трапілі ў цяжкае становішча, даць параду, аказаць своеасаблівую псіхалагічную дапамогу. Прычым, звяртаюцца да іх не з традыцыйнымі пытаннямі – "а што будзе заўтра?" ці "калі я ажанюся?" Прыходзяць маладыя людзі, якія хочуць вызначыць для сябе, куды лепш накіраваць сілы, каб максімальна рэалізаваць свае здольнасці і магчымасці. Прыходзяць тыя, каму ў крытычныя моманты жыцця патрэбна знайсці дакладнае рашэнне. Прыходзяць бацькі, каб даведацца, на якія здольнасці свайго дзіцяці звярнуць увагу ў першую чаргу, куды накіраваць яго і свае намаганні.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*АПОШНІЯ РАМАНТЫКІ*

# ПАМЕРЛА ДЖУЛЬЕТА...

### ПАМЯЦІ Ірыны ЖДАНОВІЧ

Я спазнілася выканаць просьбу рэдакцыі -- напісаць у "Голас Радзімы" пра Ірыну Ждановіч. Зрэшты, я і не здолела б выканаць гэту просьбу. Ірына Ждановіч цяжка і доўга хварэла. І яна не любіла (як і сама я не люблю) сябе хворую, не любіла, каб хваробу яе бачылі іншыя, а тым больш -- прыходзілі з блакнотам і пісалі пра яе...

Я не мела адвагі страчацца з Джульетай у такім стане. І вось спазнілася. 2 снежня народная артыстка Беларусі Ірына Ждановіч памерла.

...І таму міжволі вяртаюся я ў восень апошняй нашай стрэчы -- 75-ю восень яе жыцця. Ах, якой адмаладзелай, бесклапотнай і адважнай здавалася яна той год у Мінску! Пасля прытомленага млявага лета сама толькі злятапася вераснёвае птаства-студэнцтва. І ўсюды насустрач імкнулі ўсё маладыя, маладыя твары. Нястрымна звінеў бесклапотны смех, і столькі ў кожным позірку было адвагі і перавагі! (Быццам старасці ўвогуле не было на свеце).

Я люблю гэту пару. Люблю, хоць і абуджае яна ў душы зразумелы смутак і шкадаванне. На гэтым безаглядным гасцяванні чужой маладосці -- як ні кажы -- адчуваешся ўжо староннім толькі назіральнікам...

...З гэтага і пачыналі мы тады нашу гаворку-стрэчу з Ірынай Фларыянаўнай у яе дома. Ах, які гэта прыгожы быў дом!..

Свет і святло мінулых дзён? -- такое пытанне пазначана было ў маёй запісной кніжцы.

-- Светам, а дакладней, цэлым сусветам быў Тэатр. Адзіны. Непаўторны. Незабыўны. Тэатр імя Янкі Купалы.

...Дачка вядомага беларускага дзеяча -- акцёра і рэжысёра Фларыяна Ждановіча і спявачкі Марыі Антонаўны Ждановіч, Ірына жыла ў свеце тэатра з самага ранняга дзяцінства. Сваю першую ў жыцці ролю Хлопчыка ў п'есе Янкі Купалы "Раскіданае гняздо" яна сыграла, калі ёй было адзінаццаць год. Там у яе была ўсяго аднаадзіная рэпліка: "Дах раскідаюць!".." Гэта на ўсё жыццё незабыўная падзея адбылася ў Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі, створаным Ф. Ждановічам і У. Фальскім у 1917 годзе... У верасні 1920 года пачаў сваё жыццё Беларускі дзяржаўны тэатр. У яго трупу была залічана таксама Ірына Ждановіч. (Падумаць толькі, з якімі імёнамі побач стаяла і яе, чатырнаццацігадовай дзяўчынкі імя: Г. Грыгоніс, А. Ільінскі, К. Міронава, В. Пола, К. Саннікаў). Неўзабаве яна выступіла ў "Раскіданым гняздзе" зноў, але ўжо ў ролі Данілкі... Пасля спектакля за кулісы прыйшоў сам Янка Купала з Уладзіславай Францаўнай. І абое яны былі вельмі задаволены, і Янка Купала хваліў Ірыну і казаў, што толькі такі Данілка і бачыўся яму самому...

...Праз год Ірыну накіравалі вучыцца ў Маскоўскую тэатральную студыю, але паколькі ёй было ўсяго толькі 15 гадоў, яе адправілі на адзін год... "падрасці". Ірына Ждановіч вярнулася назад у Мінск, у свой БДТ, і з таго часу так тут і засталася на ўсё жыццё. У гэтым свеце, у гэтым сусвеце, дзе яна зведала...

-- Святло мінулых дзён?.. Мы былі рамантыкамі! Уладзімір Крыловіч, Вольга Галіна, Лідзія Ржэцкая, Уладамірскі, Глебаў, Платонаў... Усе мы жылі толькі тэатрам. Ніхто з нас ніколі не ставіў уласныя інтарэсы вышэй чужых... Я заўсёды іграла тыя ролі, якія давалі. Я ніколі не выпрошвала "выйгрышных" роляў... "Выйгрышным" быў сам факт: я іграю на сцэне. І для мяне ніякага значэння не мела, колькі гледачоў у зале. Галоўнае было, што яны ёсць, і я іграю для іх. І аддаю ім ўсё, што я маю, што ўмею... І ад гэтага сама бязмежна шчаслівая!

Якія ролі засталіся ў памяці і сэрцы?

-- Усе ролі -- нават і тыя, што былі без слоў -- радавалі і былі заўсёды вялікім святам. Я не магу сказаць, хто мне даражэйшы: Машачка ці Джульета, Далорэс з "Фландрыі" ці Людміла з "Позняга кахання", горкаўскія Верачка ці Соф'я...

-- І ўсё ж?..

-- Я любіла моцныя характары. У мяне і Джульета не... блакітная, не пакорная. Бачыць і разумець яе такой, напэўна ж, памагаў ужо і мой творчы і жыццёвы вопыт. (Я іграла Джульету ў сорак гадоў). Памятаеце яе ў келлі брата Ларэнца?

**Перабяры свой**
**шматгадовы вопыт**
**І мне параду**
**зараз жа знайдзі,**
**А то іначай гэты востры нож**
**Рассудзіць нас -- мяне**
**з маім няшчасцем.**
**І рассячэ той вузел, што**
**ні розум,**
**Ні вопыт сівы твой**
**не развязалі.**
**І не марудзь.**
**Я праўду гавару:**
**Калі няма ратунку,**
**то памру!**

-- Памятаеце? -- пыталася ў мяне Ірына Фларыянаўна.

...І я ўспаміналa зіму 1945 года... Драматычны тэатр Янкі Купалы. Галёрка (ніколі і ніяк не іначай -- толькі галёрка! -- на выкраеныя са стыпендыі апошнія рублі...). Ідзе прэм'ера "Рамэо і Джульета". Галоўныя ролі выконваюць Барыс Платонаў і Ірына Ждановіч... Рамэо -- прыгожы, імклівы, высакародны. І Джульета, такая бесклапотная, такая гуллівая і юная, быццам сатканая з вясновых аблачынак... Як толькі яны з'явіліся на сцэне, зала стаіла дыханне, заварожаная шчырасцю ігры і ўладай таленту акцёраў. А потым, пасля таго як заслона апусцілася апошні раз, нібыта грымоты абрушыліся ад воплескаў!

-- Платонава! Ждановіч! Рамэо! Джульету!

Гэтак, як тая Джульета-Ждановіч, чаравала яшчэ Джульета-Уланава ў балеце С. Пракоф'ева "Рамэо і Джульета"... Мастацтва, якому няма параўнання, бо словы толькі збядняюць яго натхнёны малюнак, яго непаўторнасць.

-- Ну а Машачка?.. А Вера з "Апошніх"?.. -- гэты вобраз Верачкі-Ждановіч у маёй эмацыянальнай і зрокавай памяці застаўся таксама з тых часоў -- "галёркі" ў тэатры Янкі Купалы.

-- Я любіла іх абедзвюх. Вядома ж... Але гэта было не толькі захапленне ролямі. Гэта было святкаванне. Гэта было на сцэне... па-руску сказаў бы: пиршество талантов. Вы бачылі, вы памятаеце наш пасляваенны спектакль "Апошнія"?

Я памятаю! Памятаю, быццам бачыла яго ўчора. Як ішоў, нібыта карабель на дно, той бязладны дом, тая ўшчэнт разбураная сям'я, як адчуваўся на тым асуджаным, гіблым караблі кожны з яе сямейнікаў. Адчуваўся, жыў -- у ансамблі таленавіцейшых выканаўцаў.

Уладзімір Уладамірскі -- Іван Каламійцаў, Вольга Галіна -- Соф'я, Якаў -- Сцяпар Бірыла, Лідзія Шынко -- Надзея, Барыс Кудраўцаў -- Аляксандр, Люба -- Кашэльнікава, Пеця -- Барыс Платонаў...

І Верачка -- Ждановіч. Гэта невялікая і як быццам не галоўная роля па свайму зместу і па той эвалюцыі, якая адбывалася з гэтым дзяўчом на працягу спектакля, вымагала ад актрысы ўсяго яе майстэрства, і тэмпераменту, і запалу маладосці... Верачка прыйшла ў свет і жыла ў тым атручаным свеце, якім дыхала ўся яе сям'я, з наіўнай дзіцячай верай у справядлівасць і дабро. Яна не хоча нават слухаць, калі яе няшчасны брат Пеця (як шчымліва стварыў яго Барыс Платонаў!), абураны гэтым усяленскім падзеннем уласнае сям'і, кажа ёй, што іх бацька -- несумленны чалавек, што ён... ("Сціхні! Замаўчы! Тата добры!" -- не давала яму нават скончыць Верачка).

І як, горача і непахісна верачы, з якім болем звяртаецца яна да самога бацькі: "Тата, ты сумленны, ты добры чалавек!" І вось які ўрачыста-зняважлівы адказ яна атрымлівае: "Няшчасная! Ты яшчэ сумнявалася!"

Усё разбурылася! На руінах сваіх дзіцяча-дзявочых спадзяванняў і мар (пасля таго, як яе нізка і брыдка ашукаў акалотачны Якараў -- яго бліскуча іграў Іван Шаціла) Вера-Ждановіч узнікае ўжо зусім-зусім іншай. "Ну, божухна, цяпер жа і я буду мучыць людзей! Такія нягоднікі, мама, гэтыя людзі, такія нягоднікі"...

На Дэкадзе беларускай культуры ў Маскве ў 1940 годзе за выкананне ролі Верачкі Ірыне Ждановіч было прысвоена званне народнай артысткі БССР.

**Якія любімыя тэатральныя вобразы сніліся, мроіліся і не збыліся?**

-- Я не заўсёды была "абласканай" і шчаслівай у тэатры (хоць праз гэта ніколі не любіла яго менш. Ніколі!). У мяне былі і "прастоі" -- па некалькі гадоў. Не было для мяне роляў... Зрэшты, у тэатры гэта здараецца нярэдка. Надыходзіць час, калі нехта некаму раптам пачынае "замінаць". Ці некаму з некім "не паказана" іграць у адным спектаклі. Узрост, калі некалькі актрыс "у гадах" побач, аказваецца, таксама шкодзіць... А марыла я ўсё жыццё -- пра Кацярыну з "Навальніцы" Астроўскага. Мне заўсёды здавалася, што ў мяне таксама нешта ёсць вельмі "саё" для гэтага вобраза. Не дачакалася... Мяне вельмі вабіла роля лэдзі Макбет. Дрымучы, складанейшы характар! А гэта заўсёды цікава для акцёра. Мяне гэта заўсёды захапляла... Яшчэ арбузаўская Таня. Мне таксама не давялося яе сыграць. Але "Таню" я сама ставіла ў нашым тэатры -- у якасці рэжысёра. І тут я задаволена.

**Любімыя вучні і сённяшняя моладзь у тэатры?**

...Развітаўшыся з тэатрам, Ірына Фларыянаўна некаторы час працавала ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. Выкладала майстэрства акцёра.

-- Я нядоўга працавала ў інстытуце. Але я вельмі любіла займацца са студэнтамі. Я аддавала ім увесь свой рэжысёрска-педагагічны вопыт. Ды і сябе саму... Мне так здаецца. І таму ў мяне не было няздольных студэнтаў... І мае вучні таксама не ленаваліся. Мы разам шукалі, хваляваліся, пакутавалі... Я іх любіла!

Што ж датычыць сучаснай тэатральнай моладзі... Вельмі многа таленавітых, яркіх людзей у тэатры. Многа... Але вельмі мала, а, можа, і зусім няма, як казала Фаіна Ранеўская, "трепета" перад тэатрам. Перад тым свяшчэннадзействам, якое адбываецца ў сценах тэатра. Зараз маладыя акцёры ідуць у тэатр на работу. У наш час у тэатры служылі. Мы былі рамантыкі...

**Жыццё ёсць жыццё... Што застаецца пасля, калі?..**

-- Сапраўды, жыццё ёсць жыццё. Адразу, як толькі я пайшла з тэатра (гэта быў 1962 год), вельмі цяжка хварэў Барыс Віктаравіч. І я як быццам не заўважала... Ён не згаджаўся, каб я пакідала тэатр. Але я была патрэбна яму -- дома... А калі яго раптам не стала (ён памёр у студэнцкай аўдыторыі, за сталом, закончыўшы лекцыю), вось тады і надышло адчуванне... Бывае невыносна цяжка. І тады я дастаю нашы альбомы і вяртаюся ў тыя часы, калі мы, калі я -- былі там... У нашым Доме.

...У тым доме, дзе жыла падчас нашай апошняй стрэчы Ірына Ждановіч, не было, як у іншых тэатральных кватэрах, на сценах афіш з уласнымі прозвішчамі, ні памятных фотаздымкаў любімых роляў і спектакляў. Вісеў толькі выдатны партрэт Барыса Віктаравіча Платонава. Там на сценах былі жывапісныя карціны -- падарункі сяброў-мастакоў. І -- кнігі. Кнігі... Там панавала ўтульнасць і бездакорны густ. І ўсё рабілася ўласнымі рукамі. Хоць і балелі ўжо і рукі, і хада была не тая. А ўсё роўна... Быў жа яшчэ клопат і на дачы. Сад саджалі і рабілі прышчэпкі яшчэ з Барысам Віктаравічам... Дык як было кінуць усё? Колькі кветак было! Ды меншала сілы -- меншала і кветак. Але ўсё роўна грэлі і цешылі яны душу. Ды яшчэ ўнук-студэнт... (Якраз і тады, пры мне, забег па дарозе з заняткаў: "Бабуля, пакорміш?.. Ба, я ў цябе сёння первачую...". -- І большай, здаецца, і не трэба было ўцехі). Заставаліся і выпрабаванья, і адданыя сябры -- кнігі.

-- Люблю сур'ёзныя кнігі (Пара раманаў адышла). Зараз ва ўладзе захаплення біялогіяй... Цікава. Люблю... Дзіўна?

**Хто зараз вашы любімыя акцёры? Які з сённяшніх тэатраў здаецца вам эталонам?**

-- У нас звычайна ўсё роўна як заведзена захапляцца адных і тымі ж імёнамі: "Ах, той! Ах, гэта!.." Мне, напрыклад, вельмі блізкая, я проста захоплена ёю, актрыса Кішынёўскага драматычнага тэатра... Прабачце, забыла прозвішча... Зараз пазваню Ірыне... (дачцэ). (Звоніць. Радасна: "Ага, ну, вядома ж, Шутава!). Шутава ў "Варшаўскай мелодыі". Каб вы толькі паглядзелі, якая гэта арганіка, як зараз кажуць... Люблю ленінградку Рашэўскую. Люблю Папову з МХАТа... А які з сённяшніх тэатраў здаецца эталонам?.. (Пасля нядоўгай паўзы). Ведаеце, усё-такі наш -- Купалаўскі!

**Традыцыйнае: што б вы пажадалі маладым, Ірына Фларыянаўна?**

-- Каб баяліся заспакаення і разліку. Каб болей хваляваліся... тэатрам. Каб любілі яго гэтак, як... Мы былі рамантыкамі!

* * *

Адыходзяць апошнія рамантыкі. Сённяшняе жорсткае жыццё бязлітасна нішчыць колішнія іх спадзяванні і мроі. Адыходзяць...

Ірына Ждановіч памерла на 88-годзе жыцця ў пансіянаце для састарэлых людзей. Памерла амаль забытай...

Вечны спакой знайшла яна на Маскоўскіх могілках у Мінску. Побач з Ларысай Александроўскай.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

# ПАД СПАГАДЛІВАЙ АПЕКАЙ ТЭРПСІХОРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

"Невялікі беларускі гарадок усур'ёз і з годнасцю заявіў аб сваіх правах на ролю сталіцы сучасных пластычных накірункаў", -- так напісала пасля мінулагодняга фестывалю ў спецыялізаваным маскоўскім часопісе "Балет" крытык з Екацярынбурга Ларыса Барыкіна.

За восем гадоў свайго існавання з Віцебскім фестывалем адбылася сутнасная эвалюцыя. Пачаўшыся ад "даўганогага шоу", ён паступова адрынуў усялякія прыкметы эстраднасці і зараз арыентуецца толькі на тыя накірункі сучаснай харэаграфіі, што разглядаюць танец у кантэксце філасофскага асэнсавання праблем быцця. У межах фестывалю звычайна адбываецца конкурс, на які паводле ўмоваў прадстаўляюцца толькі новыя работы і вызначаюцца пераможцы ў дзвюх намінацыях: аднаактовы балет і харэаграфічная мініяцюра. У сувязі з тым, што сур'ёзныя работы калектывам штогод рыхтаваць досыць складана, конкурс на Віцебскім фестывалі з мінулага года вырашана праводзіць раз на два гады.

Тым не менш, на сёлетнім фестывалі конкурс усё ж адбыўся. Аднак паводле задумы арганізатараў быў ён не зусім звычайны: у ім удзельнічалі толькі нацыянальныя беларускія калектывы. "Сёлетні фестываль для нацыянальных калектываў -- хутчэй вучэбны, -- сказала падчас адкрыцця імпрэзы дырэктар фестывалю, прэзідэнт кампаніі "Арт Марк" Марына Рамаоўская. -- Перш за ўсё мы хочам прааналізаваць, што ў галіне сучаснай харэаграфіі сёння ёсць на Беларусі. Другая мэта сёлетняга фестывалю -- імкненне зарыентаваць беларускія калектывы ў тэорыі танца мадэрн і крыху навучыць іх майстэрству ў вядомых танцоўшчыкаў".

Стварэнне прафесійна моцнага нацыянальнага калектыву -- мэта надзвычай годная, і, варта адзначыць, для яе дасягнення арганізатарамі фестывалю было зроблена шмат. Пасля прагляду конкурснай праграмы, якую ацэньвала кампетэнтная журы на чале з дырэктарам і мастацкім кіраўніком Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Валянцінам Елізар'евым, для кіраўнікоў беларускіх калектываў была наладжана зацікаўленая размова-абмеркаванне з членамі так званай секцыі крытыкі -- своеасаблівай даследчай лабараторыі фестывалю, у склад якой уваходзілі знаўцы балета з Мінска, Масквы, Вільнюса і Екацярынбурга. Для ўдзельнікаў калектываў на працягу некалькіх вечароў запар быў наладжаны прагляд відэакасет з запісамі харэаграфічных кампазіцый, якія прэзентавалі нямецкую, амерыканскую і інш. сістэмы сучаснага выразнага танца. Аднак найбольшую цікавасць выклікала магчымасць атрымаць непасрэдна ўрокі прафесійнага майстэрства ў вядомых харэографаў і танцоўшчыкаў. На працягу чатырох дзён фестывалю свае майстар-класы ў Віцебску праводзілі Фрэдэрык Лескюр і Ізабэла Ранкагліо (Парыж), Крысцін Брунель (Эсэн), Мікалай Агрызкаў (Масква), Наталля Фіксель (Новасібірск), Таццяна Баганава і Рэнат Хасбатаў (Екацярынбург). Дарэчы, усе заезджыя зоркі прынялі ўдзел у канцэртах гасцей і членаў журы фестывалю, дзякуючы чаму віцебскі глядач меў магчымасць на ўласныя вочы пабачыць цікавыя ўзоры як самога еўрапейскага танца мадэрн, так і спробы яго засваення і асэнсавання калектывамі з Расіі. Харэограф з Германіі Крысцін Брунель паставіла на сцэне тэатра "Правінцыяльныя танцы" з Екацярынбурга балет "ZOAR", вытрыманы ў традыцыях нямецкай школы "Фолькванг-шуле". Гэтае супрацоўніцтва паслужыла для калектыву з далёкага ўральскага горада штуршком для далейшага ўласнага надзвычай цікавага творчага развіцця.

У закрытым для шырокага кола гледачоў нацыянальным конкурсе VIII Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі бралі ўдзел 6 калектываў: тэатр-студыя "Раёк" (Брэст), група "ТАД" (Гродна), балет "Арт 7" (Гомель), мадэрн-балет "Галерэя" (Гродна), фольк-тэатр "Госціца" (Мінск), тэатр-студыя сучаснай пластыкі "Мілен" (Гродна). Вынікі яго падаравалі арганізатарам спадзяванне на тое, што ўжо на фестываль наступнага года Беларусь зможа прадставіць калектыў, здольны вытрымаць канкурэнцыю заўсёдных і новых яго ўдзельнікаў. Найбольш цікавымі і перспектыўнымі канкурсантамі сёлетняга фестывалю журы і крытыкі прызналі гродзенскі "ТАД" і мінскую "Госціцу". Былі прысуджаны дзве прэміі: "за харэаграфічны пошук" мастацкаму кіраўніку "ТАД" Дзмітрыю Куракулаву (2 мільёны беларускіх рублёў) і "за цэльнасць мастацкага твора" фольк-тэатру "Госціца" пры Дзяржтэлерадыёкампаніі Беларусі (мастацкі кіраўнік Ларыса Сімаковіч), які прадставіў на конкурс аднаактовы балет "Інтуіцыя міфа" (3 мільёны беларускіх рублёў).

"Як магчыма ў сённяшніх надзвычай складаных эканамічных умовах наладжваць такія маштабныя і дарагія імпрэзы?" -- з такім пытаннем я звярнулася да дырэктара фестывалю Марыны Рамаоўскай. "Ёсць людзі, якія аказваюць нам матэрыяльную падтрымку, -- адказала яна. -- І вельмі цешыць тое, што гэтая дапамога не выпадковае ўкладанне пэўных сродкаў, а свядомая падтрымка імпрэзы з разуменнем усёй яе значнасці для культурнага жыцця горада, рэспублікі. Мы лічым за гонар працаваць з фундатарамі, якія зараз ужо набылі статус заснавальнікаў фестывалю, уплываюць на яго развіццё і, спадзяюся, будуць рабіць гэта яшчэ доўгія гады. Сёлета заснавальнікамі фестывалю выступілі сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Белвест", Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі, Віцебскі Палац культуры прафсаюзаў, кампанія "Арт Марк", Міністэрства культуры і друку рэспублікі, Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома. Прэміяльны фонд нацыянальнага конкурсу сучаснай харэаграфіі забяспечыў Цэнтральны камітэт Саюза моладзі Беларусі".

Віцебскі фестываль год ад году набывае прыкметы сталасці. У горадзе ў яго ўжо даўно з'явіўся свой глядач, пераважна маладога ўзросту, які насуперак ходкаму меркаванню ўсё ж схільны па-філасофску задумвацца над няпростымі праблемамі быцця і з нецярплівасцю чакае новых сустрэч з улюбёнымі выканаўцамі і цэлымі трупамі. У фестывалю ёсць свае пастаянныя ўдзельнікі, выступленні якіх былі ў свой час адкрыццямі конкурсу. Цяпер яны сталі ганаровымі гасцямі, аднак іх выступленні па-ранейшаму чакаюць гледачы. Нязменную цікавасць фестываль выклікае ў маскоўскага часопіса "Балет" і вільнюскай газеты "Раніца Літвы", трэці раз на яго прыязджае карэспандэнтка перыядычнага выдання "Дэнс Аўстралія" Родальфа Біязота. Адна толькі мясцовая прэса стала выказвае да фестывалю нейкую надзвычай стрыманую, амаль на мяжы абыякавасці цікавасць.

Пасля фестывалю сучаснай харэаграфіі Віцебск яшчэ раз пацвердзіў, што ён здольны не толькі развіваць культурныя традыцыі, атрыманыя ім у спадчыну з 1920-х гадоў, але і ствараць новыя. Тэрпсіхора падрыхтавала ў гэтым горадзе добрую глебу для з'яўлення на Беларусі ўласнага варыянта танца мадэрн. Справа цяпер, думаецца, толькі за прыходам на нацыянальныя падмосткі таленавітых асобаў -- танцоўшчыкаў і харэографаў. Што ж, будзем чакаць іх, а разам з тым -- і наступны Віцебскі фестываль.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ:** выступае "Госціца". "Інтуіцыя Міфа".

## Уладзімір КАЛЕСНІК

**15 снежня, на 73-м годзе жыцця, пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы пісьменнік Уладзімір Андрэевіч Калеснік.**

**У некралогу, падпісаным афіцыйнымі асобамі і калегамі-пісьменнікамі, гаворыцца, што У.Калеснік валодаў глыбокімі ведамі, што вылучала яго як аднаго з вядучых вучоных-літаратуразнаўцаў і крытыкаў рэспублікі. Для У.Калесніка было характэрна шырокае кола творчых і навуковых інтарэсаў: літаратура, мова, фальклор, сучаснае літаратурнае жыццё. Шмат зрабіў ён у справе даследавання і папулярызацыі літаратуры былой Заходняй Беларусі, вывучэння ролі літаратуры ў станаўленні нацыянальнай свядомасці беларусаў і ідэалогіі нацыянальнага адраджэння ў XIX--XX стагоддзях. На рабочым стале пісьменніка засталіся няскончаныя кнігі пра беларускую літаратуру апошняга часу, пра сваё баявое партызанскае юнацтва.**

**Уладзімір Калеснік заўсёды заставаўся патрыётам, верным сынам Бацькаўшчыны.**

# З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ЗДАРОВАГА СЭНСУ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Дарэчы, не так даўно астролагі звярнуліся ў педагагічны універсітэт, каб прапанаваць распрацаваныя імі праграмы, што дапамаглі б настаўнікам падказаць бацькам, як лепш знайсці ўзаемаразуменне са сваімі дзецьмі, як дапамагчы раскрыцца талентам падлеткаў. Аднак, на жаль, ад іх паслуг там адмовіліся.

Крыху лепшыя кантакты з медыкамі. Тыя нямногія, хто зацікавіўся распрацоўкамі астролагаў, атрымалі выдатныя вынікі. І нічога містычнага тут няма, бо ва ўсім свеце ўжо даўно вядома, што рабіць хірургічныя аперацыі ў поўню ці ў самы маладзік небяспечна для жыцця пацыента і ўвогуле лячыць хворага лепш з улікам яго індывідуальнага гараскопа. Авесційская школа спрадвеку ставілася да астролага як да лекара душы і цела чалавека, бо лічылася, што негатыўныя бакі духоўнага стану выклікаюць цялесныя хваробы, і, толькі ачысціўшы душу, можна спадзявацца на пазбаўленне ад фізічнай немачы. І не трэба, аказваецца, разглядаць гараскоп, як нейкае фатальнае наканаванне. Так, кожны з нас у сілу абставін ці неспрыяльнага размяшчэння зорак на небе можа трапіць у цяжкае становішча. Але ж у нас заўсёды застаецца свабода выбару, як з гэтага становішча выходзіць. Астролаг можа толькі папярэдзіць ці даць параду, а вось паслухаецца яго чалавек ці пойдзе сваім шляхам і наробіць новых памылах -- залежыць толькі ад яго самога.

Але ці можна выправіць тое, што наканавана табе самімі зоркамі? Аказваецца, можна. А для гэтага трэба прыкласці намаганні, працаваць над сабою, мяняць сябе, каб узняцца на новы, больш высокі ўзровень духоўнасці, стаць больш чыстым і высакародным. Тады цяжкая сітуацыя можа паступова выправіцца ці адысці на другі план. Бывае, што, склаўшы гараскоп спакутаванага чалавека, астролаг бачыць карані яго бедаў у некалі зробленых памылках ці грахах. На маё пытанне аб выйсці з такога становішча астролагі адказалі, што шлях тут адзіны: трываць сцяўшы зубы, бо пазбегнуць адплаты не ўдасца. Нарабіў шкоды -- адказвай, плаці за тую дысгармонію, якую ты сваімі неразумнымі ўчынкамі ўнёс у гэты свет, інакш сам свет даўно б ужо загінуў ад чалавечай беспакаранасці. Любое ўчыненае некалі зло адгукнецца ў нашым лёсе, падкрэслілі жанчыны, але разглядаць гэта трэба не як трагедыю, а як ачышчэнне душы. Думка слушная і справядлівая, але чамусьці заўсёды аказваецца, што самыя карысныя лекі аднachасова і самыя горкія...

Ну і, канешне ж, на заканчэнне нашай размовы з трапятаннем і хваляваннем запыталася я ў астролагаў пра тое, якім будзе наступны год для ўсіх нас. Аказалася, што акрамя ўсходняга гараскопа, які стаў нам амаль родным, існуе яшчэ і зораастрыйскі. Дык вось згодна з ім, наступны год -- год Белага Мядзведзя. Падзеі 1995 года будуць надоўга наперад фарміраваць і вызначаць лёсы славянскіх народаў. Што тычыцца Беларусі, то ёй наканаваны асобы лёс: усё, што адбудзецца тут, адгукнецца і спраецыруецца потым на многія і многія краіны, нават тыя, якія пакуль што і не ведаюць пра існаванне нашай дзяржавы. Ужо 16 лютага нас чакае сур'ёзнае абвастрэнне грамадска-палітычнага становішча, кадравыя перастаноўкі, змены ў структуры ўлады. Вялікую ролю ў гэты час адыграе апазіцыя. Вельмі напружаным месяцам для Беларусі будзе май, але самым важным -- кастрычнік. Менавіта тады магчымы нечаканы (а можа, тады ўжо і заканамерны) паварот палітычных падзей у рэспубліцы і стварэнне нечага новага.

На маю просьбу парадаваць чытачоў напярэдадні Новага года абяцаннямі станоўчых змен і радасных падзей мне адказалі, што калі падыходзіць да сітуацыі з пункту гледжання здаровага сэнсу, палёгкі чакаць пакуль што не даводзіцца. І сапраўды, з пункту гледжання здаровага сэнсу, адкуль ёй узяцца? Застаецца дадаць, што рэдакцыя за надрукаваны астралагічны прагноз адказнасці не нясе і пры шчырай павазе да нашых гасцей-астролагаў разам з чытачамі парадуецца, калі яны хоць крышачку памыляцца. Але ж з пункту гледжання здаровага сэнсу... З Новым годам, сябры, з новым шчасцем!

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**У зімнім лесе.**

**Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.**



# САМЫ ДУЖЫ ЧАЛАВЕК У СВЕЦЕ

Гродна -- горад чэмпіёнаў. Гэта добрая традыцыя тут была закладзена яшчэ ў пачатку стагоддзя, калі па ўсяму свету пайшлі чуткі аб неймавернай сіле Якава (пазней -- Якуба) Чэхаўскога. Беларускі хлопец з поспехам выступаў на арэнах буйнейшых цыркаў, дзе перамагаў чэмпіёнаў па барацьбе, у савецкі перыяд выхаваў некалькі моцных штангістаў, гіравікоў. Нават у сталыя гады мог лёгка пераносіць па шэсць чалавек на выцягнутай руцэ.

Пасля Чэхаўскога, які памёр у 1941-м годзе, у Гродне з'явіліся алімпійскія, сусветныя чэмпіёны, майстэрства якіх прынесла і славу спорту, і вядомасць гэтаму беларускаму абласному цэнтру. Назавём некалькі імёнаў: гімнасткі Алена Валчэцкая і Вольга Корбут, стралкі Ірына Шылава і Канстанцін Лукашык, баскетбаліст Іван Ядзешка. У гэтым "сузор'і" зорак асобна стаіць прозвішча цяжкаатлета Аляксандра Курловіча.

Цікавы, часам драматычны лёс у Аляксандра. Яго жыццё ахутана не толькі арэолам славы, але і... плёткамі, яму прыпісвалі самыя неверагодныя прыгоды, якіх, па выразу аднаго добрага сябра Курловіча, хапіла б на некалькі вострасюжэтных баевікоў.

Шмат гадоў назад прыпісвалі... кантрабанду наркотыкаў, зброі. Нядобразычліўцы спрабавалі яго скампраметаваць, сцвярджаючы, што беларускі асілак для ўстанаўлення сусветных рэкордаў ужывае допінгавыя стымулятары.

Да гэтых брудных гульняў нярэдка падключаліся людзі, добра вядомыя ўсім, напрыклад, знакаміты спартсмен і трэнер зборнай СССР Васіль Аляксееў. Не сышоўся ён характарам з Аляксандрам Курловічам. Вельмі часта здаралася, што не ўключаў у зборную краіны, на самыя адказныя спаборніцтвы, знаходзячы розныя надуманыя прычыны.

-- Ранейшыя трэнеры зборнай СССР патрабавалі ад мяне ўдзельнічаць літаральна ва ўсіх больш-менш значных спаборніцтвах і абавязкова перамагаць, устанаўліваць сусветныя рэкорды. Так не бывае. Штангісты -- таксама людзі, мы не жалезныя. Каб падрыхтавацца да адказнага спаборніцтва, патрэбны тры-чатыры месяцы. І трэніроўкі... Ведаеце, колькі трэба падняць за адну трэніроўку металу? Дваццаць і больш тон. Колькі поту пральеш, каб быць у форме. Сапернікі ж таксама не дрэмлюць.

Вядома, не дрэмлюць. І таксама трэніруюцца. Часам абыходзяць, выйграюць, адбіраюць сусветныя рэкорды. Гэта і немец Велер, і рускі Гуняшаў, і асабліва зямляк Тараненка. Калі Курловіч і Тараненка ўдзельнічаюць у адных спаборніцтвах, у спартыўнай зале няма свабодных месцаў, быццам у тэатры, дзе ідзе добры спектакль.

Праўда, такое бывае ў апошнія гады не вельмі часта. Леанід Тараненка, бачна па ўсім, заканчвае актыўную спартыўную кар'еру, пераключаецца на трэнерскую працу. Гады бяруць сваё.

А Аляксандр Курловіч працягвае здзіўляць новымі сусветнымі рэкордамі. Упэўнена выйграе Сеульскую і Барселонскую алімпіяды, а нядаўна ў Стамбуле не пакідае ніякіх шанцаў сапернікам і на першынстве свету, дзе ўстанаўлівае адразу тры рэкорды. І дапамог яму ў гэтым брат Мікалай. Менавіта ён прывёў Аляксандра дваццаць гадоў назад у спартыўную залу камбіната "Нёман", трэніраваў, а, галоўнае, змог маральна падрыхтаваць яго да вяршынь спартыўнай славы.

Аляксандр Курловіч пакуль не збіраецца пакідаць вялікі спорт. Марыць стаць трохразовым алімпійскім чэмпіёнам. Лічыць, што традыцыі павінны працягвацца: у Гродне патрэбна і надалей выхоўваць асілкаў, рэкардсменаў свету. Збіраецца адкрыць у сваім горадзе атлетычную школу. Так што некім пушчаныя чуткі, што Аляксандр збіраецца пакінуць Гродна і, наогул, Беларусь, -- беспадстаўныя.

Сусветныя рэкорды, устаноўленыя Аляксандрам Курловічам, фенаменальныя. Калі ў яго нехта адбірае вышэйшае сусветнае дасягненне, то ён вяртае яго з вялікім запасам. Так было на перадапошнім чэмпіянаце свету. Немец Велер перамог з вынікам 442,5 кілаграма. І тут жа Курловіч у адказ перавышае сусветнае дасягненне адразу на 11 кілаграмаў.

Рэкорды Курловіча, магчыма, будуць існаваць доўга. Але, як лічыць сам чэмпіён, не вечна. У пацвярджэнне прыводзіць прыклад, што на Гродзеншчыне расце хлопец, які ўжо ў маладым узросце можа рукамі зламаць падкову.

Хто ён, дастойны працягваць славу беларускіх асілкаў? Аляксандр чамусьці яго прозвішча не назваў, але абяцаў, што калі ўдасца адкрыць атлетычную школу, то запросіць гэтага юнака да сябе, перадасць усе свае сакрэты перамагаць. Удзячная справа -- выхаваць дастойнага вучня.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр КУРЛОВІЧ на трэніроўцы.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 52. Падпісана да друку 26. 12.1994 г.